# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:

за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 11. Менск, Серада, 17 верасьня 1919 г. № 11.

## ПАЎСТАНЬ...

Паустань з народу нашага, прарок,
Праявау бураломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу урок,
Якім быу век праз ворагау спавіт!
Зьбяры у вадну усю Беларусь-сямью,
Вазьмі з яе прысягу і зарок,
Што не прадасьць сябе, сваю зямлю...
Зьняць путы Бацькаушчыне устань, прарок!

Паустань з народу нашага, пясьняр,
Былых і будучых вякоу баян,
І у бурны песьні кліч, як буры удар,
З віхрамі загудзі пад звон кайдан.
Гудзі над Беларусяй з краю у край,
У сэрцах сьпячых распалі пажар,
Над курганамі пяруном зайграй!
Збудзіць нябошчыкау паустань, песьняр!

Паустань з народу нашага, ваяк,
І волатам на Юрьевым кані
Народ аграблены—бы з торб жабрак—
За Бацькаушчыну павядзі у вагні!
Шлях к хвале Беларусі пакажы,
Зьмяці з палёу яе чужых бадзяк,
На стражы стань гранічнае мяжы...
Свой край заваяваць паустань, ваяк!

Паустань з народу нашага, уладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыу, хто гаспадар
І хто яго абдзер з каронных шат.
На уладара жджэ Беларусь дауно,
І жджэ цябе уладарства божы дар,—
Вялікае, магутнае яно...
Пад Беларускі Сьцяг прыдзі, уладар!

**Янка Купала.**

Калісбэрг, 28/VIII 1919 г.

## Прыезд у Менск Начальніка Польскай Дзяржавы

Гэтымі днямі прыезджае да Менску Начальнік Польскай Дзяржавы, Язэп Пілсудзкі. Гэта дзякуючы яму наш змучаны, абяздолены край збауляецца ад крывавага панаваньня над намі маскоуцау. Гэта ен зьвяртауся да насяленьня Беларусі з адозваю, у каторай абвяшчау, што нясе нам волю і збауленьне ад векавой крыуды і няволі. „Гэтая няволя добра ведама і мне самому, як радзіушамуся на гэтай нешчасьлівай зьямельцы“,—пісауен упамянёнай адозве. „Хачу вам даць магчымасьць разьвязаць унутраные нацыянальные і рэлігійные справы так, як самі захочаце, бяз жаднага прымусу або уціску з боку Польшчы,“—казау ен далей.

“Прывет табе, Начальніку Польскай Дзяржавы, на тваей роднай зямельцы—Беларусі!

## Конкрэтные крокі па беларусізацыі школы у нашым краю.

У добрага агародніка растуць у рад ружы, колер каторых пераходзіць ад цемна-чырвонага да сьветла-ружовага. Гэты перэход ад аднае хварбы да другой робіць на чалавека велькае эстэтычнае уражэньне. Славянскіе мовы—гэта тые самые ружы. Брак аднэй з іх псуе гармонію, якую стварыла прырода, робіць прорву паміж мовамі. Да гэтага часу беларуская мова ня мела права грамадзянства, і нам кідалоеся у вочы пустое мейсцо паміж славянскімі мовамі: велікарускай, украінскай і польскай. Цяпер гэтага пустога мейсца ня будзе: яго зойме пекная кветка-ружа, *мова беларуская.*

Конкрэтна беларусізацыя школы павінна выявіцца перш усяго у праваджэньні мовы беларускай у школу. Пры гэтым магчымы тры выпадкі: 1) настаунікі ня ведаюць мовы беларускай, 2) настаунікі знаюць беларускую мову, як размоуную, і ня ведаюць літэратуры і 3) настаунікі гавораць па-беларуску і ведаюць літэратуру, па скольки яна есьць.

1) У першым выпадку беларуская мова павінна выкладацца асобна запрошаным настаунікам. Дзеці павінны ужываць у размове сваю беларускую мову. Настаунікі павінны вытлумачыць, што няма ніякага сораму ужываць роднай мовы і глядзець, каб ня было кпін над ею.

2) Настаунікі, ведаючые беларускую мову, як размоуную, павінны ужываць яе і у зносінах з вучнямі, і у зносінах з народам, а так сама і паміж сабою. Праслухаушы курсы беларусазнауства, якіе змогуць выкладаць і літэратуру беларускую і другіе навукі, ужываючы тэрміны другіх славянскіх мовау, пэкольки яшчэ не апрацована свая тэрміналёгія.

3) Гэтые настаунікі ня толькі могуць весьці выкладаньне па-беларуску, але павінны запісваць свае лекцыі, каб такім парадкам утварыць сваю, яшчэ не багатую, вучэбную літэратуру.

Для настаунікау 1-ай і другой катэгорыі патрэбны кароткатэрміновые курсы. Курсы гэтые пе навучаць настаунікау 1-ай катэгорыі гаварыць па-беларуску, але яны дадуць ім навуку, як трэба узяцца за працу, каб самавукам, з кніг і з размовы з народам, дастаць тое, чаго у іх няма.

Курсы гэтые павінны быць пэрыядычнымі і адчыняцца кожнае лето на паутара месеца, так што можна будзе за лето зрабіць два такіх курсы на дзьве зьмены настаунікау. Настаунікам робіцца у канцы курсау колеквіум, і хто мала вынес з курсау, на другі год павінен зноу праслухаць курсы. Разам з беларусазнауствам на курсах трэба зьвярнуць увагу на лепшые мэтоды выкладаньня і на тое, каб ручная праца, як мэтод тэхнічнага разьвіцьця дзяцей, зрабілася абавязковай у школе.

Польская мова так сама павінна выкладацца на курсах, як абавязковы прадмет.

Разам з тым патрэбны курсы агітатарау нацыянальнай ідэі на Беларусі. На колькі мне вядома, пры статыстычнай перапісі 1917 г. толькі жменька беларускай інтэлігэнцыі узялася за перапісь, каб пашыраць сьвядомасьць сярод беларусау. Патрэбны так самы раз'езны тэатр. Усе дзеячы беларусы для свае чыста-нацыянальнай і культурнай працы павінны дастаць доугатэрміновые пропускі на раз'езды па усей Беларусі.

6/IX 1919 г.

**X.**

## Як ня кінь, то усе клін.

Аб долі настауніка, звычайнага народнага вучыцеля, у праклятые часы маскоускаго царызму, умелі толькі пісаць ды гаварыць, а часамі й фільонтрапічна спачуваць няшча-

кая песьня пачала рэзаць вухо некаторым асобам: Чаму беларуская і скуль яна узялася?

Пачалі дакопвацца крыніц.

Настаунік падау гэтым асобам друкованы лісток песьні.

Прачытаушы, гэтые асобы сказалі многазначнае „гм-м“, што у гэтай песьні няма нічога контр-рэвалюцыйнага і сьпяваць яе можна, але... але...—„паслухаем і патыліцу пачухаем“, бо пяецца яна троху ня так, як напісано: пераіначаны некаторые словы. Замест „трэба зладзеяу пабіць“ пяюць — „трэба навуку здабыць“.

Ад „таварыша“—вучыцеля прасілі тлумачэньня.

*Вучыцель.*—Па майму зданьню „трэба зладзеяу пабіць“—гэта не эстэтычна для маленькіх дзетак.

*Асобы.*—Не эстэтычна, а політычна, а політыку павінны цяцер ведаць і дзеці.

*Вучыцель.*—Па майму, таварышы, дык дзеці павінны толькі ведаць навуку, а політыкай будуць яны займацца, як вырастуць.

*Асобы.*—Э-гэ-гэ-гэ! Дык пэуне у вас, таварыш, і вучнёускага савету няма?!

*Вучыцель.*—Няма.

*Асобы.*—Пэуне, вы і не камуніста?

*Вучыцель.*—Не.

*Асобы.*—!!??

*Вучыцель.*—??!!

(Нямая сцэна трывае некалькі мінут).

*Асобы.*—Дык як-жа вы тут адукуеце дзяцей, хто вас тут назначыу?

*Вучыцель.*—Я ужо тут вучыцелем некалькі год.

*Асобы.*—Мабыць вы і стараржымнік?

*Вучыцель.*—Я у політыку не умешваюся.

*Асобы.*—Гэта кепска! Вы не гадзіцеся у вучыцелі, калі так. Цяцер усе павінны ведаць політыку. Мейсца вы тут мець ня можаце.

*Вучыцель.*—Таварышы! я астаюся бяз... хлеба... я зраблюся к... к... камуністам!

Сьлезы заблішчалі у вачох старога вучыцеля. Во што знача выкінуць слово з песьні!

Вучыцель астауся пры школе, зрабіуся камуністам, залажыу вучнеускі савет і г. д.

Голад ня цетка!

А калі сьпявалі вучні хорам „А хто там ідзе“, дык вучыцель вельмі напірау на словы „трэба зладзеяу пабіць“. Вочы у яго пры гэтым адважна блішчэлі, далоні яго сціськіваліся у кулакі: жадалося вучыцелю моцна „пабіць зладзеяу“—вядомых асоб.

**З. Бядуля.**

----

# Марная надзея.

Самая популярная цяпер асоба сярод расійскага чынавенства на Беларусі гэта—Дэнікін. Паслухаць, як гэтые чыноунічкі шэпчуцца, вандзыгаючы па вуліцах і па скверах, дык выходзіць, што яшчэ пазаучора іх пан Дэнікін забрау Гомель, учора палякі перадалі яму Бабруйск, сягодня перадаюць Барысау, а заутра польскае войско ачысьціць Менск перад храбрым рэстауратарам маскоускага царызму і міласэрным збауцам гаротнага чынавенства. Кажуць, што жабрак марыць аб дукатах, а бязногі аб выперадках. Мараць аб Дэнікіну і нашые, страціушы сваю пашу на Беларусі, расійскіе чыноунікі. Цешаць яны сябе, як безнадзейна хворые, марамі, і у думках іх Дэнікін бярэ Гомель, Бабруйск, Менск, цэлую Бэларусь... Няхай-бы яны цешыліся, каб... каб „не рыскалі по городу да не смущали народ“. А гэта ужо справа вымагае таго, каб абліць іх гарачые галовы ражкай халоднай вады.

Не, паноье, ня бачыць вам свайго збауцы на Беларусі, як свайго правага вуха. Хіба ен зварьяцеу, каб іці сюды? Хіба у Гомелі ен думае аднавіць царскі трон? Хіба-ж ен ня ведае, што, сунуушыся сюды, адтрымае па карку перш-на-перш ад украінцау, потым ад палякоу, а на рэшце ад бальшавікоу? Не, панове, покі на захадзе вашае сонцо узыдзе, то раса вам вочы выесьць.

Калі ваш пан Дэнікін трапіу быу пад Кіеу, дык гэта не дзеле таго, што ен мысьліу паставіць там царскі трон (царскі трон можа быць толькі у Маскве,—у другім месцы паветро перашкаджае), а, перш-на-перш дзеле таго, што туды пасунула яго ваенная доля, а потым жаданьне адабраць у бальшавікоу хлеб і пажывіцца самому. Думкі Дэнікіна, як магнусам, цягне Масква, а да Масквы яму далькоа. Покі трапіць ен да Масквы, дык разьляціца парахнею, як Колчак пад Казанью.

Абдумайце свае палажэньне, панове чыноунікі і вы „тоже белоруссы“. Ня быць вам ужо прадсядацелямі земскіх, гарадзкіх і паветавых упрау.

**Я. Ліхадзіеускі.**

# Політычные навіны.

### Бальшавікі аб страце Кіева.

„Известия В. Ц. И. К.“ пішуць, што Кіеу быу аддany дзякуючы таму, што у бальшавікоу дрэнная была арганізацыя. „Нашыя часьці,—піша газэта,—у працягу некалькіх дзен былі без харчоу. Аб рэволюцыйных карах ня было гаворано. Ня было контролю, ня было арганізацыі і моцнае улады. У Кіеве цяпер знаходзіцца Петлюра і Дэні-

---

апошняму радку і некатораму знаемству аутара з жыдоускаю мовай, творам вучыцеля, ен у кожным выпадку носіць характар школьнай работы, а не навуковай. Нам гэты верш цікавы з другога боку: пры агульна прынятых і жыдоускіх назвах месяцау тут усюды прыведзена і простанародная назва („просто“), цяпер ужо забытая. Ужываные цяперашнімі беларускімі пісьменнікамі назвы месяцау прыдуманы імі самымі (? Рд.) і далёка не заусюды трапные і, у кожным разе. ня зусім зразумелые. Ці ня лепш вярнуцца к даунейшаму?

2) А. Рымшу належыць верш на гэрб Е. Валовіча у зборніку 1585 г., надрукованым у віленскай друкарні Мамонічау: *„Генадія Патріярха... діалог или самодруга розмова“*. На адвароце загалоунага лісту—гэрб і напіс: „На гербъ яспевельможного пана остафея воловича, пана веленского и прочыхъ“. На 2-м лісьце:

Што двѣ стрѣлы,
Што врубы, што лелеи значат,
то вси люди мудрые вельми
гораздъ бачать.
Которыхъ зацныи тот дом
за гербъ уживаеть.
Вѣръ мнѣ, пж тамъ господу, цнота свою маеть.

3) Нарэшце А. Рымша зьмесьціу эпіграму вершам у Літоускім Статуце 1588 г. пад гэрбам падканцлера князьства Літоускага, Л. Сапегі. Тут маецца апісаньне гэрбу і пажаданьне доугага жыцьця Сапегам. Верш 13-складовы сілабічны, пачынаецца з агульнай развагі:

Вьсе можемъ своимъ окомъ, лацно обачити,
Дольжыню и шырокость, шнуромъ позначати,
И чоловека можемъ, познати по твары,
Если въ собе не маеть, лишнее привары,
Але где цнота собе, обрала оселость,
Тамъ ростропъ естъ до всего, и мужьская смелость...

Посьле апісаньня гэрбу і азнакі значэньня кожнага сімбалу, выказваецца пажаданьне:

Живете жъ сапегове, вси въ многие лета,
Ваша слава слыть будеть, покуль станеть света,
Подавайте жъ потомъкомъ, што маете зъ предъковъ
Ведже и вашихъ цныхъ справъ, въвесь светъ полонъ светковъ.

Абодва прыведзеные вершы з нашага пагляду ня вельмі поэтычны і навет ня зусім саупадаюць з прадстауленьнем аб назначэньні паэты і поэзіі; але наш аутар подлег звычаю свайго веку, калі удыганьне перад вяльможнымі прадстаунікамі прасьветы, каторые давалі кошты на друк, было дзелам звычайным. Але і цяперашніе нашые пасьвяшчэньні у кнігах, асабліва асобам высокапастауленым. не далека адышліся ад вершапісцау XVI—XVII вякоу. Мы прывялі адрыукі вершау А. Рымшы, маючы на увазе так сама пазнаеміць з даунейшым беларускім языком*), вершазлажэньнем і яго правапісам.

(Падау да друку аутар).

*) Кніжным. Рэд.

